ГОД ВЫДАНЬНЯ ПЕРШЫ. АСОБНЫ НУМАР 40 ГРОШ.



# ГУМАРЫСТЫЧНАЯ 2-х ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ.


| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | № 8 | ПАДПІСНАЯ ЦАНА: |
| --- | --- | --- |
| **ВІЛЬНЯ**, Віленская вул., № 12, кв. 6 «МАЛАНКА» | 1 КРАСАВІКА 1926 г. | на 1 год 8 злот. „ паўгоду 4 „ „ тры мес. 2 „ „ адзін м. 1 „ — За граніцу: на год—тры даляры, на паўгоду—1 д. і 50 цэнт. |







**Эндэцыя:** О! Мусоліні! Мусоліні! Мусоліні! Ты апякун наш, радасьць і надзея наша! Прыдзі ратаваць нас гінучых, — мы твае вернападданыя „N. D." складаем табе чэсьць, а студэнты нашыя з Вільні і Варшавы ў адзін голас крычаць: *„Хай жыве Мусоліні!"*



# Кракадылявыя сьлёзы.

**Кароценькая камэдыё — драма.**

**ЭНДЭК:**

— Пэ-пэ-эсе, „пыска дай“!
Болей ты мяне ня лай,
Мы-ж з табой браты па духу, —
Можна нас пазнаць па бруху.
Часу нам няма спрачацца
Трэба злучвацца, еднацца
Ды матаць сабе на вус
Каб хамула — беларус
Не паўстаў-бы зноў на ногі,
Бо як нам пакажа рогі,
Тагды трудная ўжо справа:
Ні налева, ні направа
Яго болей не заманіш,
Нічым болей не абманеш. —

**ПЭ-ПЭ ЭС:**

Ужо за год, а м‘о паўгоду
Ізноў трэба да народу
Так-сяк-неяк падкаціцца,
Падлабуніцца лісіцай,
Сыпнуць нейкіх абяцанак,
Клічаў, лёзунгаў, цацанак,
Абяцаць зноў „злоты горы“
Каб народ шоў на выборы.

**ЭНДЭК:**

Ой, *юж не вем* што рабіці,
Чым цяпер ужо чмуціці.
Ці народ нас слухаць будзе?
Бо цяпер *не глупе людзе!*
Не дадуць абодвум веры,
А пакажуць нам на дзьверы.
Трэба выдумаць прынаду,
А пакуль што трудна рада!

**ПЭ-ПЭ-ЭС.**

Трудна, цяжка, родны браце,
Мой Эндэча, мілы сваце,
З *Бялорусінамі* — трудна
Ох, мне цяжка, ох мне нудна!
Я нядаўна быў у Вільні,
Прыглядаўся ўсяму пільна:
Відзеў там такія дзеі,
Страх прыпомніць, дабрадзею!
Беларусы вельмі ў сіле —
Тры кнігарні ўжо адкрылі.
Банкі нашы банкрутуюць,
Беларусы ў вус ня дуюць,
Бо свае два банкі маюць,
Трэцьці ў Пінску закладаюць.
Выдавецтвы іх працуюць,
Кніжкі розныя друкуюць.
Многа думак, соткі мэтаў,
Выдаюць і шмат газэтаў,
А „Маланка“ ўдзень і ўночы
Смале-пале табе ў вочы.

**Янка М.**



# Сьмейся

Сьмейся, весяліся, браце беларусе!
Ды забудзь аб горы, зьдзеку і прымусе.
Сьмех добры, здаровы думкі разганяе,
Сьмех звонкі, як срэбра, у душы іграе,
Сьмех шчыры, вясёлы твар распагаджае
Дый не пералічыш чым сьмех уладае.
Беларусу-ж болей, як каму, патрэбны
Сьмех шчыры, вясёлы ды звонкі, як срэбра, —
Каб прагнаці думкі аб зьдзеку, няволі,
Забыцца аб крыўдзе, спрадвечнай нядолі,
Паверыць што ўзойдзе для нас такжа сонца,
Цемнату прагоне, засьвеціць ў ваконца.
Сьмейся-ж, весяліся, браце беларусе!
Ды забудзь аб горы, зьдзеку і прымусе.
Каб сьмяяцца-ж заўжды зьвечара і зранку
Раджу без адкладу *выпісаць „Маланку“*.

Чэх.



Не калечце душы маладой,
Душы дзіцячай, чулай і кволай,
Родная мова — наш скарб дарагі,
Дык не калечце чужацкаю школай.

## Дар „крэсам“.

Сьмела й бойка сталі ў рад —
І пайшлі ў паход на „Крэсы“;
Кожны чорт і кожны гад
Меў тагды тут інтарэсы.
Кожны йшоў... здабыць мандат:
Вызваленцы й Пэ-Пэ-Эсы,
Пяст, Пілсудскі й Дубадэкі,
Балаховіч і Хадэкі.

Стройны быў тагды парад,
Гучна й весела крычалі...
Вось, тагды Табе, мой Брат,
Зямлю й школу... абяцалі —

Што-ж цяпер пачаць нам тут,
Нас дачыста ашукалі...
Як нам выпутацца з пут;
Мы праз цемру ў іх папалі —
Нам стаў прыкрым родны кут...
Як папасьці ў сьветлы хвалі?

Пярун.

## Хто быў Адам?

— Як табе, Ігнат, здаецца,
Хто такі быў той Адам,
Той, з каго народ вядзецца,
І хто бацькам усім нам?

— „Як то хто?“
— Ды так прыкладам:
Пан, ці князь, ці проста так
Земляроб-мужык вясковы,
Ці зусім можа жабрак?

— „Справа простая, здаецца,
Што тут доўга думаць нам:
З раю пэўна б не прагналі,
Каб той панам быў Адам!“

Шкір—Ба.

## Дагадлівы.

*Судзьдзя:* На гэты раз віна вашая даруецца і спадзяюся, што больш у гэтым месцы ня сустрэнемся...
*Абвінавачваны*: Ці-ж Вы, пане судзьдзя, будзеце ўжо зрэдукованы?...

## Зразумеў.

Начальнік палітычнае паліцыі ў павятовым пастарунку, пасьля „збаданьня“ затрыманага маладога хлапца-беларуса, кладзе голасна сваю рэзалюцыю:
— До веньзеня!
— Да відзэня, паночку, да відзэня, — адказвае той, кіручыся да дзьвераў...
? ? ?

## Яшчэ ня чуваць.

*Селянін з-пад Горадна*: Дзе гэта запісваюць у „Сялянскі Саюз“?
*Селянін з-пад самай Вільні:* Яшчэ нідзе не запісваюць, бо аб выбарах у Сойм нічога ня чуваць яшчэ.

## У СУДЗЕ.

*Судзьдзя* (да сьведкі). — Świadek! Gdzie ostatnie wasze miejsce pobytu?
*Сьведка.* — А хто яго ведае!.. Мабыць на могілках...

Крапіва.

## Рагуліна прамова да свайго гаспадара.

Я, сялянская карова,
Прашу слова, дайце слова!
Ну, за што цярплю я зьдзек
Праз увесь каровін век?

У хляве—гуляй у жмуркі,
Толькі сьвецяць трохі дзюркі;
Ў ім, папраўдзе вам кажу,
Я ўсю зімачку дрыжу.

Ем-жа я адну салому,
Дык вядома і малому,
Што ня дам шмат малака —
Трэба сена ды мука.

Як саломы я ня выем,
Дык ты першы мяне кіем
Па сьпіне ды па баку —
Дзе-ж таму быць малаку?

Калі бегаць зажадаю,
Дык заўсёды вось што маю:
Проста жабу -- ня быка —
І прыводжу „пацука“.

Дай-жа добрага мне мужа,
Ды кармі, каб была дужа,
Прынясу тады прыплод,
Што ня выкінеш за плот.

Ня ўзьбівай мне кіем сьпіну,
А давай лепш канюшыну,
Бі больш рэпай, бураком,
Тады будзеш з малаком.

Па вядру даваць я стану, —
Будзеш есьці сам сьмятану;
Сыры, масла ды тварог,
Абы толькі зьесьці змог!

# Абяцанка-цацанка, —



Пасол Галка з „Вызваленьня“
Дакляруе даць збаўленьне.



Зямлю панскую, палацы
Раздадзём ураз бяз працы.




Дакляруе школы даці
На пацеху бацьку-маці.



А ў тваёй мужыцкай хаце
Будзе рай праўдзівы, браце.




А уладу як узялі,
Вось што людзям паказалі.




Osadnikom ziemia musi, —
Табе фігу, беларусе.

ЯСАКАР.

## Нешчасьлівае каханьне.

На шляху стаяла карчомка старая,
Там песьні грымелі ў нядзелю.
Шумела-скакала грамада людзкая,
Буяніла дзіка ад хмелю.

Ля стойкі карчмарка стаяла,
Гарэлкі людзям налівала.
А Борух над бібліяй штось марматаў,
Ён грошы лічыў і стагнаў...

Там блізка на горцы бялелі палацы
Багатага, старага пана.
Там парабкі вечна стагналі ад працы
Да ночы да позьняй ад рана.

Бізун паддаваў ім ахвоты
Да цяжкай на полі работы,
Ад поту чужога той пан багацеў,
Ён грошы лічыў і сыцеў.

Расла у карчомцы дзяўчына-цьвяточак,
Як рожа яна расьцвітала.
І рос у палацах паніч, як дубочак,
Такіх у ваколіцы мала.

І моцна яны пакахаліся,
Ад шчырай душы цалаваліся.
Бярэзьніку цень сярод цёмных начэй
Хаваў іх ад людзкіх вачэй.

Аднак-жа насілася вестка далёка
Аб тым, што вясельле там будзе,
Аб тым, што паніч пакахаўся з жыдоўкай,—
Чакалі, дзівіліся людзі.

Непакоіўся Борух набожны,
Быў пан ганаровы трывожны.
У пана ў вачох загарэўся пажар...
І лаяўся злосна карчмар...

„Ці-ж можна, дачушка, так «гою» аддацца?—
„Зьвяду я са сьвету дзяўчыну...“
„Ці-ж можа род слаўны з паганцам зьяднацца? —
„Няхай мой сынок лепш загіне...“

Жыд суд учыніў над дачкою —
Схаваў на гары пад страхою...
Пан сына застрэліў. Ў начной цішыне
У склепе схаваў у труне...

# вось як піша „Маланка“.




Замест школ, гэта цікава,
Ёсьць Тугутава „устава“.




Школы нашы касавалі,
Ды ў свае перараблялі.




З селяніна за падаткі
Цягнуць розныя манаткі.



Разьвялі дзядзькі рукамі:
„Што-ж то, хлопцы, будзе з намі?“



Вось і родныя газэты —
Ёсьць там рада на ўсё гэта.



Сваіх слухайма паслоў,
Бо яны не за паноў.

## І ДЛЯ БОГА ЁСЬЦЬ.

Адзін пан прышоў да жыдка — краўца, дый кажа:

— Пашый порткі, каб на ўсіх сьвятых былі гатовы.

Праз тыдзень прыходзіць кравец і прыносіць пану некалькі парткоў.

— Нашто гэта так шмат? — пытаецца пан.

— Во гэтыя на сьвятога Юрку, гэтыя на Пётра, гэтыя на Паўла, гэтыя на Яна, гэтыя...

— На Бога! Што ты нарабіў?

— Ціха! Ціха! І для Бога ёсьць, — адказаў кравец, паказваючы адны большыя і самыя лепшыя парткі.

Г—га.



## ПОЎНАЕ ПАРАЗУМЕНЬНЕ...

(„Deili Herald“).

*Брыян:* Пусьцім Польшчу ў Раду Лігі Народаў...

*Чэмбэрлен:* Не! раней трэба ўцягнуць туды Нямеччыну.

(*Абодвы разам*) Калі гэтак, дык згаворымся аж... у верасьні.

„Маланка“

## МІЛЬЁН — ГЭТА НІЧОГА!

— Дзядзька, ці вёска Замасьцяны шмат большая за нашу?

— Ого, шмат!

— А ў колькі разоў?

— Мільёна ў паўтара большая.

— Што ты, дзядзька? Мільён гэта-ж — нязьмерная велічыня!

— Якая там велічыня. Вунь у мяне мільёнаў — старых марак цэлы пук за печай валяецца.

К. Г.

## НЯ ВЕДАЕ

— Чаму гэта наш ксёндз ня хоча гаварыць казаньні ў касьцёле пабеларуску?

— Як чаму?! Бо Бог ёсьць Пан-Бог і нашай мужыцкай мовы ня ведае.

Я. М.






Вось
як выглядае
беларускае
„полёно-
фільства“.

## Пацешыў.

Стала матка прычытаці:
— „Мой, сынок, харошы...
Ой, парадзь-жа, дзе то ўзяці
На падатак грошы“?

Сын і кажа: — „Ціха, матка!
Грошы будуць, бач як татка,
Спрытна ўзяўшы за вяроўку,
Вунь на торг павёў кароўку“...

**Міхась Васілёк.**

## Патрыётка.

Беларускі безработны настаўнік сустрэў жонку палкоўніка з быўшае Беларускае Вайсковае Камісіі:

— Дзень добры, панечка! Якжа пан палкоўнік маецца?

*Палкоўніца*: Здрясьце! Благодарю... Вы, кажется, с моим мужем вместе служили?

*Настаўнік*: Але! Але!.. А якжа ўнучка гэта Ваша? Мо' хоча вучыцца беларускае мовы, дык я мог-бы памагчы за невялікую плату...

*Палкоўніца*: О, нет! Спасибо. Я Вам готова заплатить даже за то только, чтобы Вы никогда к ней на этом мужицком языке не обращались...

## Новая „Чачотачка“.

...пасол Аўсянік зьбіраецца ўвайсьці ў склад «дэфэнзыўнае Часовае Рады» п. *Павлюкевіча*.

*З аднаднёўкі.*

Ў вечна „Тымчасовэй Радзе“
Нова навіна:
Да Аўсяніка ўдалася
Бедная яна.

Бо дарма мэморыялы
Так і гэтак падавала,
Нарабіла пратаколаў,
Закруціла сабе голаў,
Рады ня было!

Безграшоўе... Крызыс вечны
І бязьлюдзьдзе ў ёй,
Дык пасол мо' дасьць павагу
Бочачцы пустой.

— Будзем мець не маскаля мы
Паміж рэштаю — сябрамі.
Хай сабе ён і аўсяны,
Хай заўсёды сабе п'яны,
Але-ж — дэпутат.

Кажа „доктар“ яму міла:
— І я п'ю ды ем —
Ад Мацея у „Зацішы“
Справу мы пачнем.

Едуць новыя сяброчкі,
Ізноў пачаць пад гурочкі,
Пад сяледчыкі, пад рыбкі,
„Князь“ тут іх, палітык гібкі,
Сьмешыць — весяліць.

Ўжо хаўрус як-бы й гатовы —
Усё на лад ідзе,
Але-ж трэба там страсьціся
Гэтакай бядзе:

Яе мусі не чакалі,
Хоць занадта й выпівалі;
І нашто тут невядома,
Адвакат прышоў знаёмы
Ў той самы шынок!

Надта гутарку каротку
Вось і завялі...
Пан пасол тут разыйшоўся—
„Князь“ парадзіў: „плі“!

Размахнуўся наш Аўсянік,
Поўны, круглы, як качанік,
Па патыліцы, ці твары,
Бяз ніякіх тары-бары,
Адвакату — плясь!

Ад няжданага выпадку
Зашумеў шынок —
Пасла кэльнэры за дзьверы
Пруць за каўнярок.

А на чорта-ж тое ліха —
Ці ня лепей было-б ціха,
Без пасла, сабе ў готэлі
Строіць іншыя фортэлі.
А ня гэткія?

Дзякуй-жа вам, ягамосьці,
Яшчэ можна жыць,
Бо пра вас хоць „Чачотачку“
Можна мне злажыць.

Няхай радзяць сабе людзі,
Што з гэтага далей будзе,
А паслаць пара і к ляду,
Як казаў той, гэтку „Раду“ —
Фэ-Фэ-Фэ-Фэ-Фэ!
1 2 3 4 5

**Звончык.**

Янка Башкір.

## Поп і клоп.

Зьмяніўшы новых тры сарочкі
І пераксьціўшыся ня раз,
Ніяк ня мог спакойна ночкі
Праспаць наш бацюшка Панас:

Абы захроп, сабраўся толькі
Адну часінку задрамаць,
Як тут клапы, нібы іголкі,
Пачнуць зусіх бакоў кусаць.

І поўнач пеўні прапялі,
Папіха сьніла трэці сон,
А ўсё клапы папа кусалі
Усё ня мог заснуць каб ён.

—Пастой—поп думаець: пазнаеш
Ты, чорт нячысты з таго сьвету,
Каго, ня мыўшы рук, чапаеш,
Правоў ня маючы на гэта!—

Якраз на-ліха на падушцы
Такі папаўся папу клоп: —
Чырвоны, як-бы ўвесь у юшцы,
Вялізны, што аж струсіў поп.

Але сабраўшыся ткі з духам,
Клапа за карак поп наш сьцяў,
Ды трымае ў гару брухам,
Клапу казаньне распачаў:

— Папаўся, Ірад ты сьмярдзячы,
Шакаль, гіена, хціві таць
Во цьме і ў ночы прыхадзячы
Особь духоўную кусаць!

— Дык рцы-ж ты мне цяпер,
Варава,
Адступнік боскі, ерацік,
Якое меў ты, Каін, права
Ў бакі мае ўпускаць язык!

— Скажы, смурод, ты з кім
зраўняўся,
Каму спакою не даеш?
Талстога пэўна начытаўся,
Дык Бога ўжо не прызнаеш!

— А мо' зусім, о дух нячысты...
(Тут поп затросься і зьбялеў)
Ты беларус ці камуністы?!
Кажы, хто ты, каб ты згарэў!

— А то крычаць пачну ратунку,
Дык не пасьпееш і дыхнуць,
Як апынішся ў пастарунку,
Адтуль Лукішак ня мінуць!..

## Як гэта?

— Як гэта, браце, Тодар Вярнікоўскі трапіў у рэдактары „Бел. Слова"?

— Вось дзіва! Ён навет трапіў, як кажуць, і ў літэратуру. То-ж не з каго іншага, а з яго напісаны „Пан міністар"!

— О-го! Далёка пайшоў...

— Дзе там далёка? Сядзіць сабе ў Ушы ды піша мэмуары парасейску.

— Як-жа ж гэта? Ён-жа ж рэдактар!...

— Дык што-ж такое? „Беларускае Слова" можна рэдагаваць і за 200 вёрст; не сканфіскуюць напэўна, бо гэтая газэта ў Віленшчыне — свойская.

**Восьяк.**

## У судзе.

*Судзьдзя:* Калі ласка, мая пані, скажэце мне, як гэта вы маглі пабіць гэтага злодзея, гэтакага сільнага мужчыну... ён жа-ж увесь пакусаны і абдзёрты. Ці ваш муж быў тагды дома?...

*Кабеціна:* А скуль-жа ж я, пане судзьдзя, магла ведаць, што гэта злодзей?.. Прышоў, мужа ня было дома, дык я думала, што гэта муж...

У Вільні па Вялікай вуліцы праходзе чалавек, які *„ня то каб зал'ўшы ўжо вочы, а так у меру падвыпіўшы туга"* і чагосьці шукае каля лятарні.

— Чаго пан шукае? — пытаецца ў яго праходзячы паліцыянт.

— П-п-пя рс-с-цёнак згу-біў..

Паліцыянт памагае шукаць, але ня могучы знайсьці з нецярплівасьцяй пытаецца:

— Дзе пан яго згубіў?

— На Вялікай Пагулянцы.

— Што пан жарты строе з мяне, ці што? — злуецца паліцыянт. Дык чаму-ж пан тут шукае?

— Бо т-там было цё-мна...




## Абвестка.

Прапаў жарабец палавой масьці, добра адкормлены — *аўсянік.*

Агульныя прыкметы: падкут на ўсе чатыры нагі, шыю носіць абадом, а хвост дудой, на баку кляймо „Б. П. К.", і гарда пырскаець ноздрамі.

Пазнаць яго можна па задзёртым угору носе, на словы „косю, косю!" — не здаецца, а прывабіць яго да рук можна толькі, паказаўшы з кішаня бутэльку.

Абазнаўшага, — прашу паведаміць мяне праз „Маланку". Той, хто даставіць яго мне, — адтрымаець агульна-прынятую награду, — трацінy вартасьці прапаўшага.

З пашанаю:

**Выбаршчык Гіз.**




У Лізе, створанай раней,
Пачаў немец вясьці рэй,
Яе муселі закрыць
І ўсіх гэтым памірыць.

Як расхадзілісь на бакі
Былі ў рабоце кулакі.
Ліга век свой дажывае —
У ёй шчэліна жывая.

## [illegible]ыя весткі [illegible]-е апрэля.

— У „Тымчасовэй Радзе“ адбылося паседжаньне... Цьфу!.. ня так... Прэзэс „Тымчасовэй“ загадаў сваім „працаўнікам“ *всячески воздерживаться от употребления алкоголя*, аб чым прачытаў ім цэлую лекцыю. Тыя пагражаюць забастоўкаю.

— Дзеля таго, што эндэкі, хадэкі, вызваленцы, „крэса-сяляне“ і іншыя польскія партыі прымаюць рэзалюцыі аб роспуску Сойму, дык „Беларускі Сялянскі Саюз“ пачаў пасьпешна арганізоўвацца.

— Са ўсіх куткоў „крэсаў“ паведамляюць, што дзяржаўная паліцыя зрабілася саўсім іншаю і больш ані ня думае біць арыштованых у пяткі.

— Уночы з 31. III на 1. IV гэт. году ўсім віленскім манархістым прысьніўся Сыкстус Пармскі з польскаю каронаю на галаве.

— Злоўлены бальшавік з невядома колькімі прозьвішчамі. У портфэлі яго знойдзена 20 мільёнаў быўшых польскіх марак, на якія грошы арыштованы думаў павясьці шырокую „антыпаньствовую“ акцыю.

— З Менску адтрымана радыятэлеграма, што ўсе „совработнікі“ Радавай Беларусі ахвотна ўзяліся за беларусізацыю.

— Наш супрацоўнік, гутарачы з адным відным эндэкам аб прычынах безработцьця, пачуў гэткае зданьне:

„Безработцьце лёгка можа скончыцца, калі ўсе безработныя ў Польшчы набяруцца розуму дый... паўміраюць з голаду“...

**Электрон.**

Прыпамінаем усім нашым падпісчыкам, што ад 1-га красавіка пачынаецца II-гі квартал году, а дзеля таго, хто ня прышле падпісной платы, болей адтрымліваць нумароў ня будзе. Просім сьпяшацца з падпісной платай, а таксама болей пашыраць „Маланку“ сярод вашых сваякоў і знаёмых, заахвочваючы іх да падпіскі, бо толькі ад падтрыманьня беларускага грамадзянства залежыць далейшае разьвіцьцё нашай часопісі.







Рэдактар-выдавец Янка Касяк. Друкарня Б. Клецкіна, Вільня